Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 900.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 10 красавіка 1998 г. № 37 Кошт свабодны

**СВАБОДА**

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Лукашэнка сустрэўся з Вікам

*Учора прэзідэнт Лукашэнка прыняў кіраўніка назіральнай групы АБСЕ пасла Ханса-Георга Віка*





Гэтая сустрэча, якая праходзіла за зачыненымі дзвярыма, выклікала вялікую цікавасць у прэсы. Напярэдадні адзін з лідэраў беларускай апазіцыі Генадзь Карпенка заявіў, што прэзідэнт Лукашэнка прыняў рашэнне аб правядзенні датэрміновых парламенцкіх выбараў. Па ягоных словах, такое рашэнне было прынятае пад ціскам Еўрасаюза і Савета Еўропы, а таксама прэзідэнта Барыса Ельцына, які паставіў *«жорсткую ўмову знайсці выйсце з палітычнага тупіка шляхам неадкладнага правядзення новых парламенцкіх выбараў»*. Генадзь Карпенка сцвярджае, што падчас візіту ў Мінск віцэ-прэм'ер Іван Рыбкін перадаў Лукашэнку ўмову Крамля *«да пачатку саміта кіраўнікоў дзяржаваў СНД аб'явіць дату выбараў»*.

Аднак усіх напаткала расчараванне. Перад пачаткам канфедэнцыйных перамоваў з паслом Вікам прэзідэнт Лукашэнка заявіў, што *«ніякіх глабальных пераменаў і сенсацыяў не будзе»*, сваю канстытуцыю ён назваў *«недатыкальнаю на дадзены момант»*. У прэзідэнцкай прэс-службе дадалі, што *«пазіцыя ў прэзідэнта ранейшая, а ўсялякія паведамленні ў прэсе пра выбары не адпавядаюць сапраўднасці»*. Прэс-служба адзначыла, што сустрэча са спадаром Вікам была арганізаваная дзеля *«удакладнення пазіцыяў»*.

Ханс-Георг Вік за дзень да прыёму ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі сустрэўся з амерыканскім паслом у Мінску. Перад пачаткам перамоваў з Лукашэнкам кіраўнік групы АБСЕ зноў падкрэсліў, што Беларусь можа наладзіць адносіны з еўрапейскімі структурамі, калі пойдзе па дэмакратычным шляху. На ягоную думку, у Беларусі ёсць *«перадумовы пераменаў»*. У беларускім бюро АБСЕ нам адказалі, што спадар Вік *«не будзе каментаваць вынікі сустрэчы з прэзідэнтам»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## За вызваленне Севярынца

**Створаны пасля падзеяў 2 красавіка Камітэт вызвалення маладафронтаўцаў не збіраецца спыняць барацьбы нават у святочныя Велікодныя дні.**

У суботу і нядзелю ў Мінску пройдуць пікеты з патрабаваннем вызваліць з турмы лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца, арыштаванага пасля апазіцыйнага шэсця ў «дзень яднання». Сталічныя ўлады дазволілі правесці пікетаванне 11 красавіка з 12 гадзінаў каля кінатэатра «Сучаснік» і 12 красавіка ў такі ж самы час — побач з Акадэміяй музыкі. Акрамя гэтага, у Мінску актыўна распаўсюджваюцца ўлёткі, у якіх невядомыя арганізатары заклікаюць жыхароў далучацца да акцыі пратэсту суботнім вечарам на плошчы Свабоды.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Лібералы ладзяць пікеты

**Аб'яднаная грамадзянская партыя распачынае ў Мінску «красавіцкую серыю» пікетаў.**

Сталічная арганізацыя АГП атрымала дазвол уладаў на пікеты каля станцыі метро «Пушкінская»: 11 красавіка — з 12:30 да 14:30, 14 красавіка — з 17:30 да 19:00 і 15 красавіка — 16:00—18:00. Мэта пікетаў — пратэст накont шматлікіх парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі. У прыватнасці, пікетоўшчыкі будуць патрабаваць вызвалення з-за кратаў дэпутата Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і іншых палітвязняў. Таксама будзе праводзіцца збор подпісаў пад Хартыяй-97.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

*Апазіцыя заклікае ўсіх вернікаў дабівацца адмены «святочнага» ўказа прэзідэнта*

## Давай Вялікдзень!

Лідэры беларускай апазіцыі выступілі са зваротам у сувязі з прэзідэнцкім указам «Аб дзяржаўных святах і святочных днях». Згодна з гэтым указам, з пераліку выхадных святочных дзён былі выключаныя Дзень Канстытуцыі, Дзень памяці продкаў (Дзяды) і другі дзень каталіцкага і праваслаўнага Вялікадня. У звароце, у прыватнасці, гаворыцца, што, падпісаўшы гэты ўказ, Лукашэнка паставіў пад сумненне векавыя традыцыі і духоўнае адраджэнне беларускага народа. На думку намесніка старшыні Беларускага Народнага Фронту Юрыя Хадыкі, адмену святаў, якія садзейнічалі духоўнаму адраджэнню народа, трэба расцэньваць як *«адкрытае дэкляраванне вяртання ў мінулае»*. Ю.Хадыка лічыць, што *«ніякіх эканамічных прычынаў для адмены гэтых святаў няма. Больш таго, указ дае падставы для абвастрэння міжканфесійных праблем»*.

Генадзь Карпенка падкрэсліў, што ўказ, падпісаны А.Лукашэнкам, незаконны, паколькі прызначэнне і адмена дзяржаўных святаў — прэрагатыва выключна заканадаўчых органаў, а адзіным легітымным заканадаўчым органам з'яўляецца Вярхоўны Савет 13-га склікання. У сувязі з гэтым лідэры апазіцыі вырашылі звярнуцца непасрэдна да «духоўных пастыраў» і вернікаў усіх канфесіяў у Беларусі з заклікам праявіць салідарнасць у абароне права чалавека на рэлігійную свабоду і дабівацца адмены гэтага ўказа прэзідэнта.

*БелаПАН*

## Пра палітыку - ні слова

**Шэраг сустрэчаў з чытачамі правяла на гэтым тыдні ў Брэсце група вядомых сталічных літаратараў.**

Па запрашэнні абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў горад над Бугам прыехалі пісьменнік Уладзімір Арлоў, паэты Алесь Разанаў, Уладзімір Карызна, Артур Вольскі і Міхась Скобла, а таксама перакладчыкі Лявон Баршчэўскі і Васіль Сёмуха. Цікавасць да сустрэчы з боку студэнтаў і выкладчыкаў брэсцкіх ВНУ і навучэнцаў сярэдніх школаў была надзвычай высокай.

Напрыклад, у політэхнічным інстытуце на сустрэчу з літаратарамі прыйшло больш за 500 чалавек. Прычым паўсюль моладзь задавала гасцям пытанні не толькі літаратурнага, але і грамадска-палітычнага характару. Рэакцыя мясцовых уладаў была вельмі нервовай. Падчас сустрэчы ў брэсцкай школе № 9 прадстаўніца гарвыканкама пачала патрабаваць ад сталічных гасцей спыніць палітычную агітацыю сярод вучняў. Раз'юшаную дзяржаўную даму прыйшлося супакойваць самім дзецям, якія заявілі, што прыйшлі паслухаць не яе, а пісьменнікаў.

Па нашых звестках, брэсцкія вертыкальшчыкі ўжо папярэдзілі старшыню абласной арганізацыі ТБМ Уладзіміра Фука ў тым, што ён за арганізацыю *«оппозиционного политического шабаша»* будзе мець вялікія непрыемнасці. Тым не менш ТБМ збіраецца і надалей арганізоўваць паездкі вядомых беларускіх пісьменнікаў па абласных і раённых гарадах краіны. У рамках гэтага праекта літаратары ўжо правялі падобныя сустрэчы ў Віцебску і Гродне.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*11 красавіка — суботнік*

## А як быць каталікам?

**Савет міністраў выдаў пастанову аб правядзенні суботніка. Дзень «добраахвотнай» працы прызначаны на 11 красавіка. Але могуць быць і выключэнні.**

У пастанове сцвярджаецца, што з ініцыятывай аб суботніку выступілі шэраг *«працоўных калектываў і мясцовых органаў кіравання»*. Аднак прэс-служба Саўміна адмовілася назваць нам хаця б аднаго «ініцыятара». *«Аб чым вы пытаецеся, вы ж сур'ёзныя людзі!»* — заявіў урадавы прэс-сакратар Дзмітрый Маліноўскі. Не ўзяўся ён патлумачыць і тое, чаму суботнік, насуперак звычайнай завядзёнцы, вырашылі правесці не ў 20-ых чыслах красавіка, а на тыдзень раней. *«Я на гэты конт не задумваўся»*, — адказаў прэс-сакратар.

Можна меркаваць, што перанос звязаны хутчэй за ўсё з тым, што ў суботу, 18 красавіка, усе праваслаўныя будуць рыхтавацца святкаваць Вялікдзень. Але як тады быць з каталікамі, якія да свайго Вялікадня будуць рыхтавацца менавіта 11 красавіка? Пэўна, каб не зневажаць іхнія пачуцці, урад дазволіў некаторым прадпрыемствам *«у асобных выпадках» і па «ўзгадненні з аблвыканкамамі»* выйсці на суботнік у іншыя дні. Такім чынам, прыйдзецца кіраўнікам зноў дзяліць сваіх падначаленых на праваслаўных і каталікоў. Дзякуючы ленінскаму суботніку.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



***Беларускія татары пачалі адзначаць у сераду мусульманскае свята Курбан-Байрам. Наш фотакарэспандэнт наведаў з гэтай нагоды мястэчка Іўе Гродзенскай вобласці, дзе першай ахвярай свята стаў бык (на здымку).***

*(Працяг фотарэпартажу на паласе «Культура» — стар.6.)*

### *Даўгі*

Запазычанасць Беларусі за пастаўлены Расіяй газ і электраэнергію складае сёння каля 470 млн. долараў. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні ўрада Беларусі Валерый Кокараў.

### *Саміт*

Чарговая сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў СНД адбудзецца 29 красавіка ў Маскве. Дамоўленасць аб гэтым была дасягнутая ў выніку кансультацыяў прэзідэнтаў краінаў Садружнасці, заявіў у панядзелак выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня. Па яго словах, на сустрэчы ў вярхах мяркуецца «шырокая дыскусія, у прыватнасці, аб стварэнні зоны свабоднага гандлю і рэфармавання арганізацыйных структураў СНД».

### *Кантракт*

Мінскі завод па зборцы аўтамабіляў «Форд» заключыў першы буйны кантракт на пастаўку ў Маскву паўтары тысячы мініаўтобусаў. Сума кантракту — 3 млн. долараў. З кастрычніка мінулага года ў сувязі з увядзеннем новых мытных правілаў аб'ём вытворчасці на беларускім заводзе «Форд» быў удвая ніжэйшым праектнага. З заключэннем новага кантракту штодзённа з канвеера завода будуць сыходзіць больш за 30 аўтамабіляў.

### *Зарплата*

Па дадзеных Магілёўскага аблвыканкама, запазычанасць дзяржавы па заработнай плаце ў вобласці на сёння складае 68 мільярдаў рублёў. Асабліва дрэнныя справы ў сельскай гаспадарцы: многія калгасы і саўгасы налічваюць зарплату толькі на паперы; у 40 гаспадарках работнікі не атрымлівалі зарплату са студзеня, а ў 227-мі — з лютага гэтага года.

### *Рэвалюцыя*

У райцэнтры Горкі Магілёўскай вобласці мясцовыя ўлады прынялі амаль рэвалюцыйнае рашэнне. Ці не ўпершыню ў краіне тутэйшыя крамы і сталоўкі пачнуць працаваць без выхадных і абедзенных перапынкаў. Раённыя ўлады спадзяюцца такім чынам павялічыць даходы гандлёвых прадпрыемстваў і, натуральна, дзяржбюджэту.

# Амерыканскі пасол у КДБ

*Пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард пабываў у нашых «сілавікоў»*

У мінулую сераду ён наведаў КДБ, дзе меў сустрэчу з галоўным беларускім чэкістам Уладзімірам Мацкевічам, а 3 красавіка амбасадара прыняў міністр абароны Аляксандр Чумакоў.

Гэта былі традыцыйныя сустрэчы пасла з кіраўнікамі галоўных ведамстваў краіны, каб абмяняцца думкамі і ўмацаваць асабістыя сувязі — так патлумачылі нам мэты візітаў у амбасадзе ЗША. Сустрэча ў КДБ адбылася па ініцыятыве спадара Мацкевіча, які растлумачыў паслу ролю і задачы КДБ. З генерал-палкоўнікам Чумаковым амерыканскі пасол абмеркаваў пытанні двухбаковага ўзаемадзеяння ў ваеннай сферы, а таксама кантакты Беларусі з *NATO* ў рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру».



Машына амерыканскага пасла каля КДБ.

Паведамляецца, што спадар Спекхард вынікамі сустрэчаў застаўся задаволены. Дарэчы, не так даўно падобны візіт пасол нанёс у Нацыянальны банк Беларусі, дзе сустракаўся з яго новым кіраўніком Пятром Пракаповічам. Пасол цікавіўся планамі беларускага ўрада па выхадзе з фінансавага крызісу.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Дзве гісторыі на адну тэму*

# Як звальнялі настаўніцу

У адной мінскай школе разгарэўся «палітычны» скандал.

Уцягнутымі ў яго аказаліся настаўнікі, дырэктар школы, бацькі вучняў, а таксама журналіст радыё «Свабода» і загадчык Цэнтральнага РАНА г.Мінска. Паміж двума апошнімі — карэспандэнтам Эдвардам Тарлецкім і кіраўніком райаддзела адукацыі Юрыем Канзасам нават адбылася сутычка, пасля якой у школу прыйшлося выклікаць міліцыю.

Гэты інцыдэнт здарыўся ў 37-й мінскай школе падчас сходу бацькоў і настаўнікаў. А сход стаў кульмінацыяй канфлікту паміж настаўніцай Леанардай Мухінай і дырэктарам школы Валянцінай Галкінай. Яшчэ ў сярэдзіне сакавіка дырэктар у прысутнасці педагогаў школы зачытала ліст, быццам бы напісаны бацькамі школьнікаў. У гэтым лісце настаўніца абвінавачвалася ў непрафесіяналізме, сцвярджалася, што замест вучобы яна займаецца з дзецьмі палітыкай. Мухіна абвергла гэтыя абвінавачванні, ацаніўшы іх спробай прымусіць яе звольніцца з працы. На думку настаўніцы, «непажаданай» яна стала з-за сваіх палітычных поглядаў, якіх не хавала, а таксама па той прычыне, што яе сын быў затрыманы міліцыяй за напісанне на сценах апазіцыйных лозунгаў.

Аднак у «ініцыятыву» бацькоў Леанарда Мухіна не паверыла. Яна правяла апытанне і высветліла, што ніхто з бацькоў працытаваны ліст не падпісваў. Даведаўшыся, што ад іх імя спрабуюць расправіцца з настаўніцай, бацькі вырашылі правесці ў школе сход, на які запрасілі журналістаў і загадчыка РАНА Юрыя Канзаса. Чамусьці гэты «высокі госць» аказаўся да журналіста нецярпімым: калі ў клас, дзе праходзіў сход, увайшоў карэспандэнт радыё «Свабода», Канзас загадаў рэпарцёру «выйсці за дзверы». Тарлецкі адмовіўся і паспрабаваў запісаць голас загадчыка на дыктафон, але праз імгненне атрымаў ад яго такі ўдар, што апынуўся на падлозе. Далейшыя «разборкі» працягваліся ўжо ў міліцыі: загадчык РАНА ў выніку заявіў, што не мае да журналіста прэтэнзіяў, а вось Тарлецкі свае прэтэнзіі выклаў у заяве на імя начальніка Цэнтральнага РАУС, патрабуючы прыцягнуць таварыша Канзаса да адказнасці за хуліганства.

Настаўніца таксама патрабуе сатысфакцыі ад свайго начальства, якое, на яе думку, сфальсіфікавала ліст з подпісамі бацькоў. Тым часам дырэктар школы сцвярджае, што ліст сапраўдны.

Дарэчы, мінская школа № 37, як вынікае з шыльды, што прымацаваная на будынку, з'яўляецца школай з «агульна–этычным ухілам».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Міліцэйскія фальсіфікацыі

**Учора ў Савецкім райсудзе Мінска разглядалася справа супраць лідэра Народнага Фронту Лявона Баршчэўскага. Ён абвінавачваецца ў актыўным удзеле ў несанкцыянаваным шэсці з нагоды «дня інтэграцыі».**

Выпадак, які здарыўся з Лявонам Баршчэўскім і ягонаю жонкай Аленай 2 красавіка, б'е ўсе рэкорды нахабства і цынізму прадстаўнікоў мінскай міліцыі.

У той час, калі на галоўным праспекце сталіцы праходзіла маніфестацыя апазіцыі, сям'я Баршчэўскіх прысутнічала на літаратурнай вечарыне, прысвечанай творчасці нямецкага пісьменніка Бертольда Брэхта ў мінскім Доме дружбы. Пасля яе заканчэння Баршчэўскія вырашылі трохі прайсціся па горадзе. Паколькі Лявон з'яўляецца не толькі перакладчыкам на беларускую мову твораў Брэхта, але і выконвае абавязкі старшыні БНФ, то ён прапанаваў жонцы зайсці на некалькі хвілінаў у штаб-кватэру роднай арганізацыі, каб пацікавіцца справамі.

Далей падзеі, па словах жонкі Баршчэўскага, развіваліся так. Выходзячы з фронтаўскага офіса, яны заўважылі некалькі машынаў з зацемненымі шыбамі, а побач людзей у цывільным характэрнага выгляду. Баршчэўскія не паспелі прайсці і дваццаці крокаў, як на іх наляцелі тыя самыя «цывільныя», якія назваліся супрацоўнікамі крымінальнага вышуку, і загадалі ім сядаць у аўто. Баршчэўскіх адвезлі ў Савецкі РАУС, дзе гэтыя ж асобы ў цывільным склалі на іх пратаколы, з якіх вынікала, што Алена ўдзельнічала ў несанкцыянаванай акцыі і ў раёне цырка выкрыквала апазіцыйныя лозунгі. А Лявон нібыта рабіў тое самае каля плошчы Перамогі. Жонку Баршчэўскага пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны, а яго самога адвезлі ў прыёмнік–размеркавальнік, дзе ён правёў усю ноч. Раніцай наступнага дня Алена прыйшла ў суд, куды даставілі яе мужа і іншых апазіцыянераў.

У судзе сведкі–міліцыянты, якія схапілі Баршчэўскіх, спрабавалі пераканаць суддзю, што кіраўнік Фронту і ягоная жонка актыўна парушалі грамадскі парадак і нават спрабавалі знайсці іх на відэазапісе, але безвынікова. І сапраўды, цяжка знайсці чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма. Баршчэўскі заявіў суду, што факт іхняга няўдзелу ў дэманстрацыі могуць пацвердзіць шматлікія сведкі, якіх Лявон запатрабаваў выклікаць у суд. Суддзя пагадзіўся і перанёс разгляд справы Баршчэўскага на 9–е, а ягонай жонкі — на 14 красавіка.

Учора Баршчэўскага пачалі судзіць. Але на момант падпісання нумара ў друк працэс яшчэ працягваўся.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Дзіцячая забастоўка

**У Івацэвічах, раённым цэнтры Брэсцкай вобласці, у школе № 2 адбылася забастоўка. Прычым наладзілі яе не настаўнікі, незадаволеныя матэрыяльнымі ўмовамі. Баставалі вучні, патрабуючы вярнуць звольненую настаўніцу.**

Загад аб звальненні настаўніцы матэматыкі Людмілы Валінскай з'явіўся пасля наступнага. Скарыстаўшы адгулы і адпрасіўшыся ў адміністрацыі, настаўніца накіравалася па асабістых справах у Расію, на Поўнач. Назад вярнулася на некалькі дзён пазней — з-за нялётнага надвор'я. І хаця гэты факт быў пацверджаны дакументальна — Валінскую звольнілі за прагулы.

Але гэта — толькі фармальная нагода. Рэальнымі ж былі прычыны іншага характару. Падчас парламенцкіх выбараў настаўніца актыўна працавала ў ініцыятыўнай групе прадпрымальніка Уладзіміра Кудзінава. Пасля, калі дэпутата кінулі за краты, Людміла Валінская збірала ў Івацэвічах подпісы за яго вызваленне і, натуральна, не хавала свайго прыхільнага стаўлення да Кудзінава.

Калі пасля канікулаў вучні 10«А» класа даведаліся, што класная кіраўніца звольненая з працы, яны абвясцілі забастоўку. Па словах дзяцей, бацькі з разуменнем паставіліся да гэтай акцыі, і ні ў каго ў класе непрыемнасцяў у сям'і з-за забастоўкі не было. На трэці дзень забастоўкі вучні пайшлі са сваімі патрабаваннямі на цэнтральную плошчу Івацэвічаў.

Як заведзена ў райцэнтрах, на цэнтральнай плошчы, сканцэнтраваныя ўсе галоўныя раённыя ўстановы. Як толькі дзеці з'явіліся на плошчы, знайшліся дарослыя дзядзькі, якія растлумачылі школьнікам: тое, што яны робяць, называецца «несанкцыянаваны пікет». За гэта дзецям пагражалі штрафамі, калоніяй і іншымі страшэннымі карамі. З плошчы дзеці разышліся — але сказалі, што ў школу не пойдуць да той пары, пакуль настаўніцу не адновяць на працы. Разам з гэтым дзесяцікласнікі падалі ў райвыканкам заяўку на пікет.

У той жа дзень Л.Валінскую выклікалі ў РАНА. Загад аб звальненні, каб «захаваць твар», скасоўваць не сталі, — але прапанавалі настаўніцы напісаць новую заяву аб прыёме на работу. Такім чынам, з пачатку бягучага тыдня Людміла Валінская вярнулася да вучняў. Апошнія, праўда, атрымалі нездавальняючыя адзнакі па паводзінах — але гэта, я думаю, не надта ўжо вялікая плата за вяртанне любімай настаўніцы.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Курс – на русіфікацыю

**Ліквідацыя беларускамоўных школаў і класаў дасягнула сёлета крытычнай рысы — так лічаць у Таварыстве беларускай школы.**

На паседжанні ТБШ паведамілі, што колькасць беларускамоўных школаў у гэтым навучальным годзе скарацілася яшчэ на 2%, а з дзвюма мовамі навучання — на 15,5%. У той самы час колькасць школаў з рускай мовай навучання павялічылася на 20%. Такім чынам, з 1 млн. 555 тысячаў школьнікаў толькі 491 тысяча дзяцей навучаюцца сёння па-беларуску. У бліжэйшыя гады іх стане яшчэ меней. Бо набор першакласнікаў у беларускамоўныя класы скарацiўся з 76% (1994 год) да 28,7% у гэтым навучальным годзе. Па Мінску спад наогул адбыўся з 58,6% да 7,3%.

*«У сёлетнім знішчэнні беларускамоўнага навучання праявілася свая адметнасць,* — сказаў віцэ-прэзідэнт ТБШ Алесь Лозка. — *Гэта масавая ліквідацыя беларускамоўных школаў у сельскай мясцовасці. Такое не назіралася нават у пасляваенныя савецкія часы. З бягучага навучальнага года ў вёсках паменела адразу на 55 беларускамоўных школаў».*

**Наталля ВАЛАКІДА**

# П'юць і дзецям наліваюць

**Красамоўны факт быў прыведзены на калегіі Магілёўскага абласнога ўпраўлення адукацыі.**

У вобласці стаіць на ўліку 5 тысячаў сем'яў, дзе бацькі беспрабудна п'юць. У гэтых сем'ях жыве амаль 10 тысячаў дзяцей, многія з якіх таксама пачынаюць прыкладвацца да чаркі. За мінулы год было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці «за п'янку» 1.300 школьнікаў і навучэнцаў ПТВ.

**Іван ЗАСАДА**

# «Салодкае» жыццё

*Цукар зноў стаў дэфіцытам*

**У Гродне ўлады заняты сёння цукровай праблемай. Пасля моцных перабояў на мінулым тыдні гэты тавар знік увогуле. Давялося прасіць цукар з дзяржаўнага запасу, але на яго не было сертыфіката якасці. Таму, прынамсі тыдзень, цукар у крамах зусім адсутнічаў.**

Нарэшце ў аўторак яго сталі прадаваць па старой цане (па 22 тысячы 800 рублёў), прычым не больш за 5 кілаграмаў аднаму пакупніку. У краме побач з маім домам за паўдня раскупілі ўвесь запас — паўтары тоны. На горад было выдзелена 80 тон. Цяпер цукру зноў няма.

Падобная сітуацыя ўтварылася і на Гомельшчыне. Там паспрабавалі ўсё зваліць на суседзяў. Маўляў, вобласць памежная, вось яны і раскуплялі. Хаця вядома, што на Украіне цукар традыцыйна таннейшы. Як зрэшты і ў Польшчы, з якой мяжуе Гродзеншчына. Але можна штучна занізіць цэны і тым самым стварыць праблему з нічога. Гродзенскае начальства шчыра прызнаецца, што цукар «размятае» мясцовае насельніцтва — у сакавіку раскупілі ў тры разы больш, чым за два папярэднія месяцы. Як вядома, Лукашэнка «адкруціў цэны назад», вось людзі і панабіралі цукар мяхамі.

На працягу апошніх гадоў гэты прадукт перыядычна знікае з прылаўкаў. Можна быць упэўненымі, што і ў будучыні сітуацыя будзе паўтарацца. Прычына бачыцца ў дзяржаўным рэгуляванні закупак і продажу цукру, які, па сутнасці, зроблены своеасаблівай катэгорыяй унутранай палітыкі. У Гродне існуюць фірмы, якія займаюцца пастаўкай цукру з-за мяжы. У адной з іх, аднак, адказалі, што пакуль не будуць яго завозіць. Чаму? Таму што цукар абыходзіцца ім па 28 тысячаў рублёў за кілаграм, а ўлады прымушаюць прадаваць яго за 24 тысячы. Зрэшты ўжо цяпер на рынку ён прадаецца па 27 тысячаў за кг. І стаяць чэргі. Падобна, наша дзяржава не можа існаваць без чэргаў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Мірон можа ўсё

«Вар'яцтва!» — кажуць адны. «Геройства!» — кажуць іншыя. А хтосьці ставіцца да гэтага абсалютна абыякава. Але Мірон зноў вывесіў бел-чырвона-белы сцяг. На гэты раз — на шашы Смаленск—Віцебск, на лініі электраперадачы з напругай у 35 тысячаў вольтаў.

Мы ўжо шмат разоў пісалі пра вядомага верхалаза-аматара з райцэнтра Лёзна Віцебскай вобласці, што хаваецца пад сціплым псеўданімам «Мірон» і час ад часу ўпрыгожвае свой горад бел-чырвона-белымі сцягамі. А каб сцяг вісеў даўжэй, вешае іх на самыя высокія кропкі Лёзна — на комінны, лініі электраперадачы і г.д. Для Мірона не праблема ні 30-50 метраў вышыні, ані высокая напруга. Да сцягу ён звычайна прымацоўвае цыдулку з пагрозлівым тэкстам і подпісам «Мірон». Міліцыя ўжо даўно шукае яго, завяла крымінальную справу, але марна — Мірон дагэтуль застаецца няўлоўным.

Няўжо сілавым структурам сапраўды так цяжка расшукаць Мірона? Ці за час упартай барацьбы з бабулькамі, што гандлююць семкамі ды цыгарэтамі, міліцыя канчаткова страціла ўсе свае здольнасці? Відаць, не. Дык у чым жа тады унікальнасць Мірона, ягоны феномен?



*На здымку (з архіва СВАБОДЫ): сцягі, вывешаныя Міронам на коміне Віцебскай ЦЭЦ.*

Рызыкну выказаць крамольную ідэю: таго Мірона, якога мы з вамі ведаем, проста не існуе. Гэта міф, які, тым не менш, застаецца вельмі прывабным. На маю думку, няўлоўны Мірон — гэта зборны вобраз, з якога значна пазней народзіцца легенды Новай Незалежнай Беларусі. І маці альбо бабулі будуць вечарам распавядаць сваім дзецям і ўнукам пра подзвігі Мірона, кожны раз дадаючы да легенды свае падрабязнасці.

Хто ж тады вешаў усе гэтыя сцягі? — запытаюць у мяне расчараваныя чытачы. Бо не адзін, не два — некалькі дзесяткаў бел-чырвона-белых сцягоў сапраўды луналі ў паветры, пакуль іх не здымаў які-небудзь электрык за пляшку гарэлкі ці амонавец — за проста так. Сцягі ж — гэта не міф, гэта рэальнасць. І крымінальная справа — таксама сумная рэальнасць нашага часу.

Міронаў, на маю думку, — не адзін, не два. Іх можа быць пяць ці дзесяць — адважных беларусаў, якія вось так выказваюць пратэст рэжыму. А «Мірон» — агульны псеўданім, каб заблытаць міліцыю.

Але самае галоўнае — ад таго, што Міронаў на самой справе некалькі, іхняя справа не губляе сваёй важнасці. Болей таго, любы можа стаць Міронам — і для гэтага неабавязкова жыць у Лёзна альбо ўступаць у нейкую падпольную арганізацыю «Мірон і кампанія». Тое, што аб'ядноўвае ўсіх Міронаў, што імі рухае — гэта любоў да Бацькаўшчыны, занепакоенасць яе далейшым лёсам. Калі табе гэта блізка — няма ніякіх перашкодаў. Заўсёды ты можаш знайсці ці вырабіць бел-чырвона-белы сцяг і павесіць у сваім родным горадзе. І падпісацца: «Мірон». Альбо інакш — гэта не так істотна. А калі баішся вышыні, то ёсць іншыя шляхі пратэсту. «Мірон» можа ўсё. І таму яго нельга перамагчы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Вижу опасное сходство пород

Есть люди, которые хоть встречай добром да корми досыта, а они все равно злые и агрессивные. Порода такая. И очень распространенная, не убавляющаяся, увы.

Кажется, это вот невеселое наблюдение и заставило однажды Михаила Зощенко, мудреца с проницательной грустинкой в глазах, сочинить иронизм-афоризм, гласящий: *«Животная — это не человек, на нее положиться можно»*.

Страшная зараза — агрессия эта. Все-таки она от животного мира людскому передалась. Схожесть, как ни печально, сохраняется. Встречаешь иной раз в печати или в жизни информацию о зверье, какое оно грубое и безжалостное в обращении, — а ум сам собой к тягостным раздумьям о человечестве клонится...

Вот в одной газете прочел — жутковато! *«Крыса может убить соперника-родича, ни разу не прикоснувшись к нему. Она просто кружит вокруг жертвы, вздыбив шерсть и щелкая зубами. И через несколько часов несчастная соперница умирает без всяких признаков повреждений. От стресса...»*

Вам это ничего не напоминает (людскую свару на кухне, митинге или в очереди, подростковую стаю в ночном дворе...)?

Кстати, злоба наша бумерангом и к животным, которых приручаем, возвращается. Достается им от нас в наследство агрессия в кубе... Мне не верите — так вот вам фрагмент заметок писателя Виктора Ерофеева на закуску.

*«Я нигде не видел более злых собак, чем в России. Каждая... видит свой долг в том, чтобы вас облаять, а еще лучше — укусить. Система спонтанного воспитания собак в России выстроена на агрессивности. А на Западе собаки, как правило, декоративны. Им безразличны чужие люди»*.

...Не пугаю я — но обратить внимание на градус окружающей злости хочу. Шутить тут даже стойкому философу не шибко получается. Это в объявлениях на столбах собачки на продажу все сплошь «нежные, ласковые...», а хозяева, сдающие квартиры нуждающимся, — душа-человеки, будто братья родные. Потом, при личном знакомстве, реклама вянет, а борьба за существование начинается...

**Сергей ПЕТРОВ,**
*г.Минск*

## Чыноўнікі ў адной кампаніі з махлярамі

**На думку апытаных сацыёлагамі мінчан, ад эканамічных рэформаў у Беларусі выйграюць найперш «дзяржаўныя чыноўнікі, махляры і прайдзісветы».**

Пры гэтым 46% лічаць, што нейкія рэформы ў нашай краіне праводзяцца, а 39% прытрымліваюцца супрацьлеглай думкі. «Хто выйграе ад такіх рэформаў?» — было наступнае пытанне. Адказы падзяліліся наступным чынам: на дзяржаўных чыноўнікаў паказалі 23% рэспандэнтаў; на махляроў і прайдзісветаў — 18%. Кожны дзесяты рэспандэнт лічыць, што выйграюць прэзідэнт і прадпрымальнікі. Такая ж колькасць апытаных — 10% — адказалі, што «ніхто не выйграе».

Апытанне праводзіла сацыялагічная служба «Зеркало» кампаніі БелаПАН. Як вынікае з адказаў, абсалютная большасць мінчанаў не задаволеная сённяшнім станам эканомікі. Многія выступаюць не супраць рэформаў у прынцыпе, а супраць таго тыпу рэфармавання, які праводзіць цяперашні ўрад.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

# Неизбежный рынок

## *Позавчера, вчера и завтра белорусской экономики*

Социологические опросы последнего времени показывают: несмотря на то, что жизнь людей не становится богаче, большинство смотрит в будущее с оптимизмом. И они правы.

**Позавчерашний день** экономики Беларуси — это время ее несамостоятельного существования в рамках СССР. И все же было настоящее хозяйство, построенное по четким принципам. Социалистический рост сначала обеспечивался за счет поборов с сельского хозяйства, когда крестьянина заставляли платить налог за каждую яблоню и курицу, в то время как за труд от темна до темна платили лишь пустопорожним трудоднем, а не деньгами. Потом экономическое развитие Беларуси — «сборочного цеха страны Советов» — финансировалось за счет импорта дешевых энергоносителей и сырья, а взамен Беларусь продавала за бесценок свою высококвалифицированную рабочую силу. Как подкреплялась такая экономика — хорошо известно: методами подавления и принуждения.

**Вчерашний день** экономики нашей страны — это время после распада СССР. Тогда впервые правительство попробовало искать внутренние источники экономического роста. Рухнула административная система — и экономика оказалась в свободном падении: нет дешевого сырья, нет масштабных рынков сбыта (точнее, старые рынки оказались неплатежеспособными), нет налоговых поступлений для государственных инвестиций... Правительство Кебича ухватилось за инфляцию, словно за спасательный круг. В результате проблемы только нарастали, кризис становился острее, а уставшие избиратели на президентских выборах проголосовали за того, кто пообещал бесплатный холодильник и телевизор.

То, что есть в Беларуси сегодня, — это фактически не экономика. Нынешняя власть решила не рисковать и пошла «другим путем». В ходу явно неэкономические средства подпитки производства, прежде всего — постоянное списание долгов за энергоресурсы и многие миллионы таможенных долларов, украденных из российского бюджета. Внутри страны — тот же бандитизм: налицо конфискационные изъятия налогов в пользу государства, а также грабеж людей путем постоянной недоплаты фактически заработанных денег.

Нынешняя модель может просуществовать еще некоторое время, но она неизбежно исчезнет вместе с нынешним режимом. Объективно Беларусь — страна рынка, как ни парадоксально это может звучать сегодня. Экономическая наука утверждает, что к нерыночным факторам относятся: большие размеры страны и емкость внутреннего рынка, крупные запасы сырьевых ресурсов, низкий уровень частных сбережений. Полезных ископаемых у нас мало — об этом официальная пропаганда все уши прожужжала. Что касается размеров, так по европейским меркам Беларусь страна и не большая, и не маленькая — в самый раз. А насчет частных сбережений белоруса не проведешь: по разным оценкам, на руках у людей скопилось от двух до четырех миллиардов долларов — так что по большому счету и внешний долг Кебича—Чигиря—Линга покрыть хватит, и в свое дело инвестировать. Поэтому **завтра** белорусской экономики — это рынок.

**Людмила ГРЯЗНОВА,**
*депутат ВС, кандидат экономических наук*

## *З лістоў у рэдакцыю*

**СЁННЯ ДЛЯ МНОГІХ ЛЮДЗЕЙ** адказ на пытанне пра здароўе залежыць ад курсу долара. Той, у каго долары ёсць, адчувае сябе лепш, калі курс расце, а тыя, каму трэба памяняць рублі на долары, ад гэтага губляюць пакой і сон. Апошняе перш за ўсё тычыцца Аляксандра Лукашэнкі і Пятра Пракаповіча, ад якіх гандлёвыя партнёры Беларусі патрабуюць разлічыцца ў доларах ці іншай прыстойнай валюце. Адносіць жа да ліку валютаў «зайца», пасля таго як Пракаповіч «сделал с ним, что хотел», немагчыма ні ў якім разе.

**К.СМАЛЕВІЧ,**
*г.Мінск*

**МЕНЯ ОЧЕНЬ РАЗОЧАРОВАЛА** опубликованная в вашей газете статья Позьняка «Вяртанне БНР». Его так и не научила жизнь уважать и считаться с другим мнением в рядах оппозиции. У него все виноваты, он их «привлекает к ответственности». В своей статье он незаслуженно унизил и оскорбил многих деятелей оппозиции.

З.Позьняку, прежде чем кого-то обвинять, полезно посмотреть на свои просчеты, из-за которых БНФ оказался в сложной политической ситуации.

**Петр ШАРОБАЙКО,**
*ветеран войны и труда, г.Воложин*

**ПІШУ ВАМ З Г.БАРАНАВІЧЫ.** Вельмі люблю чытаць вашую газету. Мне семнаццаць гадоў, вучуся ў 11-ым класе. Вельмі хвалююся за тую сітуацыю, што склалася ў нашай краіне. Быў у Мінску 8 і 14 лютага. Пазнаёміўся там з Паўлам Севярынцам. Ён паабяцаў, што дапаможа адкрыць мне суполку Маладога Фронту ў Баранавічах. У мяне ёсць многа сяброўаднадумцаў, мы збіраемся разам і абмяркоўваем апошнія падзеі ў Беларусі. Мы не жадаем, каб працягвалася тое, што робіцца цяпер у нашай краіне.

**Алесь ПІКУЛА**

ДАГЕРРОТИП

Семен БУКЧИН

# Одичание

## Комментарий к документу, подписанному г-ном Боложинским

Режим дичает на глазах. Кажется, еще немного и высшие чиновники, во всяком случае, те, кто причастен к «идеологии», наденут шкуры и по-звериному завоют... Приметы одичания проступают все очевиднее одновременно с утратой элементарных человеческих и служебных качеств.

Одной из давно наблюдаемых и приобретающих угрожающий характер утрат является, несомненно, утрата элементарной грамотности. Нормальная человеческая речь уже им неподвластна. Вот и г-н Боложинский подписывает документ, называющийся *«Об усилении контрпропаганды выступлений оппозиционной прессы»*. Главному советнику управления социально-культурной политики в голову не приходит, что нельзя так писать, что «контрпропаганда выступлений» — это вопиющая безграмотность, чушь собачья, рожденная в суровых бюрократических мозгах президентского «аппарата». Логика этих мозгов понятна: коль есть *«пропаганда выступлений»*, то должна быть и *«контрпропаганда выступлений»*... Тут, как говорится, своя стилистика, свои законы...

Может быть, я придираюсь? Наш чиновник в своих сочинениях всегда тяготел к бюрократической казуистике. Но ведь г-н Боложинский не просто чиновник, а, так сказать, птица высшего полета — «главный советник управления социально-культурной политики». Если уж главные советники по культурной политике такой культурный уровень демонстрируют, чего требовать от какой-нибудь районной сошки...

Но это, дорогой читатель, только часть проблемы. Главное же в том, что безграмотный чиновник — это всегда антидемократ, это запретитель, охранитель, короче, человек скорее с дубинкой, чем с книгой, «источником знаний». Антидемократичность нынешнего режима теснейшим образом связана с косноязычностью и безграмотностью большинства его столпов и адептов.

Документ, подписанный главным советником Боложинским, самым непосредственным образом подтверждает эту аксиому. Ну что такое в самом деле означает эта «мера» — «запретить органам государственного управления передачу в негосударственные СМИ официальных документов»? Почему «Советская Белоруссия» или «Звязда» могут получить текст указа президента или постановления правительства, а «Навіны» или «Народная воля» лишены этой возможности? Почему «должностным лицам» запрещается комментировать официальные документы «для оппозиционных СМИ»?

Неужели, это и есть проявления того небывалого в мировой истории расцвета демократии, о котором постоянно твердит в назидание Западу президент Лукашенко? Но если это демократия, то что же тогда в действительности тоталитаризм и полицейщина?

Ответ на эти риторические вопросы содержит последний пункт комментируемого документа, в котором не просто предлагается *«запретить государственным учреждениям и предприятиям размещение своей рекламы на страницах оппозиционных газет»*, но и обосновывается необходимость этой «меры», поскольку реклама *«является основным источником их финансирования»*.

И вот думаешь: ну к чему эти ухищрения? Почему бы сразу не взять да и запретить всю эту «независимую нечисть»? Без всякой «контрпропаганды». Дело, впрочем, понятное: есть еще это проклятое мировое общественное мнение, есть эти отвратительные европейские организации вроде ОБСЕ... Приходится, к сожалению, считаться. Но если уж так, то загоним независимую прессу в такой угол, чтобы она там без информации, без рекламы тихо подыхала. Создадим что-нибудь вроде гетто, этакий «мир отверженных».

Я полагаю, эту бумажку, подписанную г-ном Боложинским, хорошо бы захватить с собой г-ну Антоновичу во время вояжей по европейским столицам и демонстрировать в Брюсселе, в Женеве как образец «дальнейшего развития демократических процессов в Беларуси». Там этот документ будет высоко оценен! Если иметь в виду, что, как подчеркивает г-н Боложинский, *«исполнение этих рекомендаций находится на контроле у президента»*. То есть Сам и внедряет всю эту «демократию»... Обеспечивает, так сказать, на самом высоком уровне.

Обидно, правда, что исполнителям еще приходится прятаться. Документик-то «для служебного пользования», каждый экземплярчик пронумерован. Потому что стыдный документик. И смею думать, что даже г-н Боложинский это понимает. Но как же мы, г-н главный советник (может, не случайно что-то от третьего рейха чудится в этом звании?), в независимых изданиях узнаем об «этих рекомендациях»? Впрочем, вопрос глупый. Дело ясное: теперь, когда, к примеру, министр услышит, что ему звонят из тех же «Навін», он попросту положит трубку. Это, несомненно, будет образцом не только исполнения «рекомендаций», но и высшим проявлением культуры, уважения к прессе. Что ж, в этих условиях нам остается больше простора для своего комментария, а государственный чиновник сам лишает себя возможности довести свою точку зрения до читателя.

Но, видимо, ненависть к независимой прессе перевешивает элементарный здравый смысл. Как же они, действительно, нас ненавидят, как боятся, если опускаются до сочинения инструкций, которых уже стесняются в какой-нибудь азиатской Тьмутаракани! Я понимаю: дело подневольное, Сам стучит кулаком по столу, брызжет слюной, топочет ногами. Тут от страха и не такое насочиняешь... Поэтому сочувствия ради позволю себе дать совет главному советнику Боложинскому.

Г-н советник! То, чего вы, извините, накарябали, это халтура, а не контрпропаганда. Насчет «контр» вам нужно учиться у соответствующих отделов ЦК КПБ, горкомов и обкомов. Это значит составить подробный планчик статей-публикаций против «негосударственной прессы», в коем строго обозначить тему и исполнителя. Скажем, столько-то и таких-то статей пишет Паша Якубович, столько-то министр по печати Подгайный, а столько-то и вы сами, почтенный... А как же — надо оклад отрабатывать не фитюльками-отписками на полстранички... Ну и других испытанных авторов — из Академии наук, из вузов — не забыть... Разумеется, обозначить дату исполнения заказа. Вот это и есть контрпропаганда.

А что у вас? Запретить! Не допустить! Голая полицейщина. Тоска...

Для служебного пользования
Экз. № 49

Об усилении контрпропаганды выступлений оппозиционной прессы

В соответствии с письмом Администрации Президента Республики Беларусь от 17 марта 1998 г. № 10/89 и поручением Президента Республики Беларусь о необходимости усилия контрпропаганды выступлений оппозиционной прессы, а также исходя из одобренных Президентом концептуальных подходов по совершенствованию работы государственных СМИ, считаем необходимым принять следующие меры:

запретить министерствам, госкомитетам и другим органам государственного управления передачу в негосударственные СМИ официальных документов (указов, постановлений, распоряжений и т.д.).

довести до сведения должностных лиц о недопустимости с их стороны комментариев официальных документов для оппозиционных СМИ;

запретить государственным учреждениям и предприятиям размещение своей рекламы на страницах оппозиционных газет, что является основным источником их финансирования.

Исполнение этих рекомендаций находится на контроле у Президента.

Главный советник управления социально-культурной политики — Б.Н.Боложинский

# Такім быў красавік у Мінску сем гадоў таму

## Няўжо цяпер жывецца лепей?



*На здымках: красавік 1991-га ў Мінску. Хваляванні пачаліся з прычыны рэзкага скачка цэнаў: прадукты падаражэлі ў некалькі разоў. Першымі забаставалі рабочыя заводаў аўтаматычных ліній, электратэхнічнага і падшыпнікавага. Тысячы людзей вывалілі за прахадныя і, перакрыўшы рух транспарту на вуліцы Казлова, пачалі стыхійны мітынг (на здымку злева). Да стачкі ў хуткім часе далучыліся рабочыя трактарнага завода, МАЗа і дзесяткаў іншых прадпрыемстваў. Калоны рабочых з розных канцоў сталіцы рушылі на плошчу да Дома ўрада (на здымку ўнізе). Пачаліся забастоўкі ў абласных цэнтрах і іншых гарадах. Разам з лозунгам «Рыначным цэнам — рыначную зарплату» былі выстаўленыя таксама палітычныя патрабаванні. Стачка скончылася пасля таго, як кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і ўрада згадзілася сесці за стол перамоваў з прадстаўнікамі страйкавага камітэта.*



